ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
Каталіцкі ВЕСНІК
№7 (124) ліпень 2021 год
CATHOLICNEWS.BY

# Казанне біскупа Алега Буткевіча ў Будславе

*Мой родны кут, як ты мне мілы!*
*Забыць цябе не маю сілы!*
*Не раз, утомлены дарогай,*
*Жыццём вясны мае ўбогай,*
*К табе я ў думках залятаю*
*І тут душою спачываю.*

*Якуб Колас. Паэма "Новая зямля".*




Вашы Эксцэленцыі, шаноўныя святары, браты і сёстры манаскіх супольнасцяў, дарагія пілігрымы, браты і сёстры ў Хрысце!

Пагадзіцеся, што гэтыя радкі з паэмы Якуба Коласа "Новая зямля", як ніколі, сёння асаблівым чынам можна аднесці да Будслава. Бо "родны кут" – гэта месца, дзе цябе заўсёды чакаюць з любоўю. Гэта месца, асабліва прасякнутае бацькоўскім клопатам пра сваіх дзяцей. Месца, дзе чалавек "адпачывае душою", дзе загойваюцца духоўныя раны і дзе аднаўляюцца сілы, патрэбныя для жыцця і для таго, каб выкараскацца з нагрувашчаных праблем і цяжкасцей. Тут, у Будслаўскай святыні, заўсёды чакае нас Сэрца нашай Нябеснай Маці, Якая нас любіць, чакае Сэрца, напоўненае клопатам і няспыннай малітвай за кожнага з нас. Тут мы асабліва адчуваем моц Яе ўсемагутнага Матчынага заступніцтва!

Як звычайна, мы прыходзім сюды са шматлікімі нашымі просьбамі. Не толькі прыносім Божай Маці свае асабістыя справы, але асаблівым чынам складаем перад Яе Тронам клопат пра лёс нашай краіны і ўсяго свету, які перажывае няпростае выпрабаванне. З вялікай надзеяй просім паратунку ад хвароб – як фізічных, асабліва падчас эпідэміі каранавірусу, так і духоўных, спадзеючыся, што і гэтым разам Яна нас выслухае. Так як выслухоўвала на працягу вякоў малітвы нашых продкаў, каторыя прасілі Яе заступніцтва перад Богам тут, у Будслаўскай святыні. Просім супакою для нашай Бацькаўшчыны і паспяховага вырашэння праблем, якія існуюць сёння ў грамадска-палітычным жыцці. Каб Беларусь стала па-сапраўднаму Краінай для жыцця – годнага жыцця кожнага грамадзяніна!

Напэўна, няма магчымасці падлічыць, колькі ружанцаў, літаній, малітваў сэрца выслухоўвае Божая Маці. Аднак Яна няспынна імкнецца "перанакіраваць" нашую ўвагу на Свайго Сына. Нават трымаючы Яго маленькага на сваіх руках, нібы кажа нам: вось, Ён тут галоўны. Ён усім кіруе і Яму належыць найвышэйшая Улада.

А таму, звяртаючыся да Бога, перадусім трэба памятаць, што не толькі Ён "павінен" выслухоўваць нашыя малітвы, але гэта мы, у першую чаргу, павінны выслухоўваць, прымаць Ягонае Слова. Быць Яму паслухмянымі.

Ягонае Слова сапраўды дае нам надзею, падтрымлівае нас духоўна. І сёння мы чуем з вамі з вуснаў прарока Сафоніі: " Не бойся!... Няхай не слабнуць рукі твае! Пан Бог твой сярод цябе, Магутны, Ён збавіць!.. Я забяру ад цябе нядолю, каб не было больш на табе сораму" (Саф 3, 16-18). А разам з тым Бог кажа праз Апостала народаў: "Майце нянавісць да зла, гарніцеся да дабра; любіце адзін аднаго братняю любоўю..., ва ўціску будзьце цярплівыя, у малітве – трывалыя... Блаславёўляйце тых, хто пераследуе вас, блаславёўляйце, а не праклінайце... Будзьце аднадумцамі між сабою; не мудруйце празмерна, але наследуйце пакорных" (Рым 12, 9-16б).

Тым, што нас матывуе кіравацца Божым словам, якое не толькі падтрымлівае духоўна, але і ставіць пэўныя патрабаванні, з'яўляецца Божы аўтарытэт. І гэта тое, на што сёння, на жаль, нярэдка "кульгае" наша вера – ёй часта не хапае менавіта Божага аўтарытэту.

Мы верым у Бога. Але наколькі Яго Слова мае ўплыў на наша жыццё? Наколькі Яго Слова з'яўляецца для мяне несумненным і беспамылковым? Наколькі я кіруюся Ім у асабістым жыцці? Гэта пытанні, на якія сёння не так лёгка знаходзіць адказ нават той, хто лічыць сябе вернікам-практыкам. Прычына – усё той жа недахоп Божага аўтарытэту.

Зрэшты, прычыны таму могуць быць розныя. Адна з іх, як мне здаецца, уласцівая для нашага асяроддзя, заключаецца ў тым, што мы прызвычаіліся мець у аўтарытэце тых, хто паказвае сваю сілу. Хто патрапіць здамінаваць, паказаць, як гаворыцца, "свае зубы" ці трымаць у "вожыкавых рукавіцах" або "у абцугах". Вось тады гэта "аўтарытэт"!

А Бог? Тут узнікае пытанне. Бо Ён нікога не трымае ў "вожыкавых рукавіцах", не хваліцца сваёй сілай, хоць трымае ў сваіх руках сусвет і добра ведае, што Яму належыць апошняе слова! Нікога не знявольвае і, нават калі хтосьці выразна і "па-нахабнаму" ідзе насуперак Яго Божай волі, да канца шануе вольны выбар чалавека. Наадварот, Бог міласэрны і ласкавы, шматміласцівы і доўгацярплівы, і не хоча смерці грэшніка, але каб той навярнуўся і жыў! (Із 33,11). На жаль, гэтыя якасці не карыстаюцца вялікай папулярнасцю ў свеце, а праз гэта і Бог нярэдка траціць свой аўтарытэт у нашых вачах.

І гэта вельмі небяспечна для нас. Небяспечна перадусім у перспектыве ўласнага збаўлення. Бо вучань, які не мае ў аўтарытэце свайго настаўніка, перастае быць вучнем і ператвараецца ў слугу "дрэннага і нягоднага", каторы рызыкуе патрапіць у "вонкавую цемру", дзе будзе "плач і скрыгатанне зубоў" (Мц 25,30). Небяспечна гэта і ў жыцці грамадскім. Бо калі Бог міласэрны і ласкавы, Той, Які ёсць "дарогай, праўдай і жыццём", не будзе нашым аўтарытэтам, не будуць у аўтарытэце і людзі, каторыя імкнуцца быць падобныя да Бога ў сваёй праўдзівасці, шчырасці, мудрасці, адказнасці, ахвярнасці. А менавіта такіх людзей мы заўсёды шукаем. З такімі людзьмі хочам звязваць сваё жыццё і такіх людзей хочам бачыць на адказных пасадах. Такім людзям мы хочам даручаць наша здароўе, адукацыю, вытворчасць, адміністрацыю, нарэшце, уладу. Таму пытанне Божага аўтарытэту сапраўды нібы ўвенчвае пытанне нашай веры! Так як дах увенчвае ўвесь будынак.

І вось ён, знак, перад нашымі вачыма. Згарэлы дах на Будслаўскай базіліцы. Напэўна, гэта было з Божага допушчэння, і, я так разумею, не без згоды Божай Маці. Базіліка, якая з'яўляецца сімвалам, знакам нашай веры і якая праз пажар засталася без даху. Вера, як муры касцёла, засталася.

А Божы аўтарытэт? Няхай гэтае здарэнне паставіць перад намі такое пытанне. Калі ён у нашым жыцці знік, належыць яго адбудаваць, а калі застаўся – варта паклапаціцца, каб яго ўмацаваць.

Няхай адбудова даху над Будслаўскай святыняй стане сімвалам і знакам адбудовы і ўмацавання Божага аўтарытэту ў нашым асабістым і грамадскім жыцці! А сам Будслаў няхай заўсёды будзе для нас тым "родным кутом", дзе можа адпачыць паяднаная з Богам кожная людская душа!

***+Алег Буткевіч***
***Біскуп Віцебскі, старшыня ККББ***
*Будслаў, 03.07.2021г., св. Імша апоўначы*

## 20 гадоў служэння ў Афрыцы: беларускі святар пра жыццё і дзейнасць у Сьера-Леонэ

Стар. 2



## Когда родители ссорятся: влияние семейных конфликтов на детей

Стар. 6



## Інтэрв'ю са святаром-пчаляром

Стар. 8



# 20 гадоў служэння ў Афрыцы:

## беларускі святар пра жыццё і дзейнасць у Сьера-Леонэ

**Беларускі салезіянскі святар Сяргей Гоман родам з Дзятлава. Ужо дваццаць гадоў ён служыць у Афрыцы. Раз на два гады айцец прыязджае на Радзіму. “Каталіцкі Веснік” сустрэўся з місіянерам і паразмаўляў з ім пра жыццё і місію на афрыканскім кантыненце.**



**– Айцец Сяргей, як распачалося Ваша служэнне ў Афрыцы?**

– Яшчэ будучы семінарыстам, я ніколі не хацеў ехаць менавіта ў Афрыку. Думаў проста пра місію, можа, у Азейбарджане ці Манголіі, дзе тады распачыналі сваё служэнне салезіяне. Напісаў ліст і ўдакладніў, каб мяне не высылалі ў “цёплую” краіну, бо я сапраўды моцна пакутую ад спякоты. Праз некаторы час прыйшоў адказ ад генеральнага настаяцеля з Рыма, што я еду менавіта ў Заходнюю Афрыку.

**– Выходзіць, што Ваша духоўная фармацыя праходзіла на афрыканскім кантыненце?**

– Так, трапіўшы ў Афрыку на служэнне, я быў 22-гадовым клерыкам. Спачатку паехаў у Ірландыю, каб вывучыць англійскую мову. Потым мяне накіравалі ў Гану. Там год быў на своеасаблівай практыцы-стажыроўцы.

Потым мяне на чатыры гады адправілі ў Кенію на тэалагічнае навучанне ў міжканфесійны каледж. У нашым класе было каля 120 чалавек. Тады я шмат з кім пазнаёміўся, і зараз часам сустракаю сваіх аднакурснікаў у розных частках Афрыкі.

Семінарыстаў-місіянераў звычайна не адпускаюць дамоў. Толькі калі становішся дыяканам, ёсць магчымасць паехаць на канікулы. Таму падчас гэтага перыяду нас накіроўвалі на практыку ў тыя месцы, дзе служаць салезіяне. Так я пабываў ва Угандзе, у Танзаніі, Нігерыі і крыху пазнаёміўся з афрыканскай культурай. Год я быў дыяканам у Сьера-Леонэ, і потым стаў першым салезіянскім святаром, пасвечаным менавіта ў гэтай краіне. Тут я знаходжуся па сённяшні дзень.

**– Як выглядае сітуацыя з хрысціянствам у Сьера-Леонэ?**

– Асноўная частка насельніцтва ў Сьера-Леонэ – мусульмане. Хрысціянства ж дало моцны штуршок у сферы адукацыі: 65% школ належаць да каталіцкай місіі. Не таму, што ў краіне шмат католікаў, а таму, што місіянеры, якія ў свой час тут служылі, найперш будавалі калодзеж і школу. Праз дзяцей місіянеры звярталіся да бацькоў, і такім чынам адбывалася евангелізацыя. І ўжо потым будавалася маленькая каплічка.

У свой час я таксама ўладкаваў чатыры калодзежы, чатыры капліцы, адрамантаваў школу, дабудаваў святыню. Але гэты працэс евангелізацыі, на жаль, не такі хуткі: будынак узвесці нашмат прасцей, чым стварыць супольнасць вернікаў. Самае важнае не пабудова і не пэўныя фінансы, але магчымасць жыць разам з людзьмі і быць сярод іх.

**– Як рэагуюць на Вашу місіянерскую дзейнасць мясцовыя жыхары?**

– У горадзе ў асноўным да місіянера ставяцца з павагай як да “белага” чалавека, каторы мае грошы. Часта яны бачаць і матэрыяльную карысць. У вёсцы ж, наадварот, усё па-іншаму: трэба ісці спачатку да правадыра племені. Ён можа аказаць вялікую дапамогу. Асабліва, калі становіцца католікам. Тады нярэдка дае зямельны надзел пад будаўніцтва святыні, бо зямля належыць вёсцы. Правадыр ведае, што заўсёды там, дзе будзе капліца, ёсць пэўнае развіццё і інфраструктура.

**– Якія Вашы асноўныя абавязкі зараз?**

– Сёння салезіяне ў Фрытаўне маюць своеасаблівае сацыяльнае служэнне, якое складаецца з васьмі праграм. Я і мае браты аказваем дапамогу маладым пацярпелым прастытуткам і тым дзецям, якія пацярпелі ад гвалту. Падтрымліваем зняволеных асобаў і дзяцей, ад якіх усе адмовіліся. Займаемся “дзецьмі вуліцы”, што сышлі з дому па розных прычынах.

**– Раскажыце, калі ласка, падрабязней пра гэтыя праграмы...**

– Першая праграма накіравана на дапамогу маладым прастытуткам. Для дзяўчат 12-16 гадоў салезіяне арганізавалі адмысловы цэнтр. У нас ёсць сацыяльныя работнікі, якія ходзяць па розных барах і шукаюць там дзяўчынак. Часта іх выкарыстоўваюць за вельмі маленькія грошы, можа, нават за 0,5$, каб толькі, напрыклад, іх маці або хтосьці з іншых родных, якія накіравалі іх туды, былі задаволеныя. Мы прапаноўваем гэтым дзяўчынкам альтэрнатыву: быць цырульнікам, кухарам або швачкай. Калі яны згаджаюцца на дапамогу, мы стараемся ўвасобіць іх няспраўджаныя мары.

Гэтай праграме каля шасці гадоў. Прыкладна 260 дзяўчынак мы адгаварылі ад прастытуцыі. Некаторыя ўжо маюць нават свае салоны прыгажосці, працуюць у рэстаранах. Але, на жаль, не кожная згаджаецца адразу з намі змяніць сваё жыццё. Праз пэўны час дзяўчаты ўсё ж тэлефануюць нам, але яны маюць ужо шмат венерычных хваробаў. Лячэнне каштуе дорага. Былі выпадкі, калі некаторыя дзяўчынкі паміралі.

Зараз у нашым цэнтры – 45 маладых прастытутак. Некаторыя з іх нарадзілі. Таму ў нас зараз шасцёра дзяцей. Ёсць яшчэ васьмёра малых, таксама народжаных ад сексуальнага гвалту. Часта іх мамы яшчэ самі дзеці і не ведаюць, што і як правільна рабіць. Таму народжанымі ў нашым цэнтры займаюцца вызначаныя людзі.

Другая праграма накіравана на дапамогу дзецям, якія па розных прычынах зведалі сексуальны і фізічны гвалт. Калі я выязджаю у Беларусь, у нашым цэнтры было 56 такіх чалавек. Самай маленькай дзяўчынцы – 1 год і 3 месяцы, яе згвалтаваў родны тата. Гэтых малых нам прысылае міліцыя, бо толькі мы маем такі цэнтр у Сьера-Леонэ. Прымаем і тых дзяцей, з якіх фізічна здзекаваліся дома. У нас ёсць дзяўчынка, каторая не дачакалася вячэры, была галодная і з’ела кусок рыбы. Маці, убачыўшы гэта, усунула рукі дачкі ў алей, які кіпеў.

Таксама ёсць такое паняцце, як “замуж па прымусе ў маладым узросце”. Напрыклад, была сітуацыя, што стары

> **“70-гадовы мужчына купіў сабе 16-ці гадовую дзяўчынку ў яе маці за тры мяхі рысу і пяць коз”**

Нам патэлефанавалі суседзі і распавялі гэтую гісторыю. Тады мы паехалі туды, каб разабрацца.

Салезіяне стараюцца ездзіць па вёсках і распаўсюджваць там плакаты пра тое, што такое замужжа караецца. Ёсць таксама вызначаныя кансультанты, якія займаюцца тым, каб пасадзіць гэтых людзей у турму. Але тыя часта ідуць да бацькоў і прапаноўваюць ім грошы, каб не даводзіць справу да суда.

⇒






Згвалтаваныя сямі-, васьмі-, дзевяцігадовыя дзяўчынкі часта патрабуюць сур'ёзнай медыцынскай дапамогі. І цяжка працаваць з такой колькасцю людзей. Яны жывуць усе разам, бо няма магчымасці іх рассяліць. Сацыяльныя работнікі стараюцца дапамагаць кожнаму і размаўляюць з імі. Калі мы бачым, што дзяўчынка прайшла рэабілітацыю і адчувае сябе лепш, мы аддаём гэта дзіця ў яе сям'ю. Два-тры гады назіраем за сітуацыяй, каб усё было бяспечна. Калі сям'я бедная, стараемся па магчымасці дапамагчы.

**– А якая дапамога аказваецца хлопчыкам?**

– Для хлопчыкаў маем два цэнтры. Адзін з іх – для "дзяцей вуліцы". Там можам размясціць пяцьдзясят чалавек, на жаль, больш няма магчымасці. Раз на паўгода мы ездзім па вуліцах і шукаем тых, хто там спіць. Гэта хлопчыкі ад 6 да 12 гадоў. У асноўным яны збягаюць з дому з-за цяжкай працы або з-за таго, што іх білі, часам шукаюць лепшага жыцця. Мы едзем да іх бацькоў і даведваемся прычыну, па якой яны збеглі. Часта абяцаем ім фінансавую дапамогу, і ў асноўным хлопчыкаў забіраюць дамоў.

85% застаецца ў сем'ях, 15% па нейкіх прычынах зноў уцякаюць на вуліцу. Некаторыя пачалі прымаць наркотыкі, і ў сям'і ім ужо складана жыць. Такім дзецям мы даём другі шанец. Большасць пасля нашага цэнтра маюць сем'і, працу і яны ўдзячныя нам. Аднак некаторыя ўсё ж трапляюць ў турму або ўвогуле гінуць. Былі выпадкі, калі пасля двух дзён прабывання дзіця знікала і з нашым матрацам, і з падушкай, прадаючы ўсё гэта за наркотыкі. Адзін наш падапечны краў у нас рэчы пяць ці шэсць разоў. Але мы яго зноў прымалі да сябе. А цяпер ён добры электрык. Такіх выпадкаў, канешне, няшмат, але мы радыя любому змяненню да лепшага. Кожную нядзелю праводзіцца святая Імша для дзяцей, якія жывуць з намі.

**– Вы прыгадвалі дапамогу вязням. У чым яна заключаецца?**

– Раней салезіяне хадзілі ў турму толькі для правядзення святой Імшы. Але пасля мы зразумелі, што там шмат тых, хто пакутуе ад недаядання, хваробаў. Ёсць там і праблемы з вадой. У турме, якая была пабудавана для 350 чалавек, зараз знаходзіцца 1400 вязняў. Мы пабудавалі калодзеж для таго, каб людзі змаглі піць, і прымітыўныя душавыя кабінкі, каб памыцца. Нашы сацыяльныя работнікі выбіраюць самых слабых і хворых. Стараюцца даць ім ежу, садавіну, дапамагаюць з медыцынай. Пазней, калі вязні становяцца мацнейшымі, дапамагаем наступным.

Самае лепшае месца для мяне сёння – турма. 260 вязняў сядзяць шчыльна адзін да аднаго, у цішыні, заўсёды слухаюць, што скажа святар. Яны ўжо страцілі надзею на чалавека. Засталася надзея толькі на Бога, якая яскрава праяўляецца ў іх песнях праслаўлення. Кожны год сакрамант хросту прымае каля 35 вязняў. Ёсць класы для зняволеных, дзе мы вучым іх пісаць і чытаць, карыстацца камп'ютарам. Салезіяне знайшлі таксама спонсараў, якія дапамагаюць людзям пасля турмы ў навучанні. На дадзены момант шэсць чалавек навучаецца быць цесляраміі-мулярамі, два мужчыны будуць займацца шыццём, тры чалавекі стануць электрыкамі. Такім чынам, у гэтых людзей будзе магчымасць спакойна працаваць пасля турмы і дзесьці ўладкавацца.

Што да астатніх праграм, то ў нас ёсць таксама гарачая "лінія крызісу". Людзі тэлефануюць сюды і распавядаюць пра свае праблемы або цікавяцца пэўнай інфармацыяй. Тэлефон працуе дваццаць чатыры гадзіны. Мы прымаем каля 800 званкоў у месяц. Часам з вёскі людзі не могуць даехаць у горад, таму ім лепш пазваніць. Яшчэ салезіяне маюць аўтобус, які пяць разоў на тыдзень выязджае на вуліцы сталіцы – Фрытаўна. Так мы спрыяем тым, хто мае патрэбу ў ежы, даём ім неабходныя рэчы, аказваем першую медыцынскую дапамогу. Таксама мы падтрымліваем маладых прастытутак, якія не жывуць у нашым сацыяльным цэнтры. Плацім за іх вучобу, стараемся даць ім некаторыя грошы на ежу, вырашаем праблемы з жыллём. Зараз у нас 450 такіх дзяўчат.

**– Вы працуеце з вельмі вялікай колькасцю людзей. Што найбольш падабаецца ў мясцовых жыхарах?**

– Яны не кажуць гучныя словы ўдзячнасці, але на іх твары заўсёды яна бачная. І хочацца працаваць для гэтага і старацца. Яшчэ падабаецца тое, што, калі спытаеш у мясцовага жыхара, як справы, ён адказвае: "Дзякуй Богу, што я яшчэ жыву". І часам глядзіш на чалавека і думаеш: "Чаму ён дзякуе Богу? У яго ж нават няма нармальнага адзення". Гэта падштурхоўвае мяне на пэўны роздум і дае магчымасць паглядзець таксама на сябе з іншага боку.

**– Напрыканцы нашай размовы хацелася б даведацца, наколькі карысным стала для Вас такое місіянерскае служэнне і чаму?**

– Калі я быў у Маскве на практыцы, я меў пэўны крызіс, звязаны з пакліканнем. У Афрыцы ж я адрадзіўся ў веры. Місія дапамагла мне ўзрасці духоўна. Нават гледзячы на тых людзей, якія выжываюць і не наракаюць, а толькі дзякуюць Богу, што яны жывуць. Я зразумеў, што для шчасця не трэба штат рэчаў. Тут, у Афрыцы, людзі часта радуюцца нейкай дробязі. Я таксама ўбачыў, што многіх праблем, якія ў Беларусі для людзей падаюцца сур'ёзнымі, тут не існуе.

*Гутарыла Ірына Радзевіч*

*с. Дар'я Галубкова OV*

# Вера і ўчынкі:

## адказ чалавека на Божае пакліканне

**Бог любіць чалавека і хоча дзяліцца з ім сваім шчасцем у вечнасці. Каб чалавек мог пазнаць Бога і Яго збаўчую волю, Ён накіроўвае да нас сваё Аб'яўленне. Гэтае Аб'яўленне нясе ў сабе не толькі праўды, у якія мы верым, але таксама заклік да дыялогу з Богам. Чалавек, каторы чуе гэты заклік у сваім сумленні, павінен адказаць на яго, ці то прымаючы, ці то адмаўляючы. Свой адказ ён пацвярджае сваімі ўчынкамі, добрымі ці дрэннымі.**



Вера як адказ на Божае пакліканне не можа быць выключна сузіраннем Божага слова, але заклікае чалавека да адпаведных паводзінаў, маральных паставаў. У Пасланні Святога Апостала Якуба чытаем: "Якая карысць, браты мае, калі нехта кажа, што мае веру, а ўчынкаў не мае? Ці можа вера збавіць яго? [...] Вера без учынкаў мёртвая сама па сабе" (2,14.16). Сапраўды, чалавек, створаны на вобраз і падабенства Бога, гэта значыць, як разумная і вольная асоба, здольны прыняць і рэалізаваць Ягонае пакліканне. Праз веру і святы хрост ён атрымаў новае жыццё, стаў новым чалавекам у Хрысце, таму і ягоныя ўчынкі павінны пацвярджаць тое, кім ён з'яўляецца. Пан Езус кажа: "Па іхніх пладах пазнаеце іх. [...] Так кожнае добрае дрэва родзіць добрыя плады, а дрэннае дрэва родзіць дрэнныя плады" (Мц 7,16-17).

Сапраўды, чалавек выконвае Божую волю, робячы дабро. Тая праўда, што чалавек з'яўляецца ўмілаваным стварэннем Божым, Ягоным дзіцём, пабуджае нас (хоць і не прымушае) да канкрэтнага дзеяння, да таго, што мы рабіць павінны. Калі чалавек робіць добрыя ўчынкі, мы кажам, што ён паступае маральна, гэта значыць, паступае разумна і вольна згодна з парадкам, устаноўленым Богам.

Сапраўднымі чалавечымі ўчынкамі з'яўляюцца толькі свядомыя і добраахвотныя дзеянні, за якія ён і нясе адказнасць. Таму да іх не належаць дзеянні, звязаныя выключна з фізіялогіяй чалавека і ўласцівыя таксама іншым жывым арганізмам (напрыклад, сон, натуральныя патрэбы). Чалавечы ўчынак павінен быць свядомым, гэта значыць, што ён прадугледжвае папярэдняе пазнанне сітуацыі, таго, што трэба рабіць і якую маральную вартасць ён мае. У гэтым чалавеку дапамагае Божы закон і сумленне. Вольная воля чалавека, у сваю чаргу, прымае тое, што пазнаў розум, і імкнецца да выканання ўчынку або адмаўляецца рабіць тое, што лічыць дрэнным ці супярэчлівым з Божай воляй. У выніку першароднага граху і маральнага аслаблення чалавека яго воля не заўжды выбірае дабро, як гэта павінна быць, таму яму патрэбна Божая дапамога.

Як здольнасць пазнання, так і воля чалавека паддаюцца розным абмежаванням. Чалавек мае не толькі душу, але і цела, звязанае з матэрыяльным светам, таму на яго ўздзейнічаюць такія ўнутраныя і знешнія фактары, як асяроддзе, сям'я, выхаванне, спадчынныя схільнасці, характар, хваробы... Гэтыя агульныя фактары ў той ці іншай ступені ўплываюць на волю асобы і абмяжоўваюць яе. Да таго ж існуюць і спецыфічныя перашкоды для маральна добрых учынкаў: гэта фізічны прымус (зазнанне пад уплывам знешняга гвалту) і псіхічны прымус (застрашванне, жах, што поўнасцю могуць спаралізаваць чалавечую волю).

> **"За ўчынкі, здзейсненыя пад прымусам, з чалавека можа быць знята маральная адказнасць, аднак не заўсёды"**

Напрыклад, нават пагрозай смерці не можна апраўдаць адрачэнне ад веры. Воля чалавека абмяжоўваецца таксама дрэннымі схільнасцямі, залежнасцямі (напрыклад, алкагалізм, наркаманія, азартныя гульні): асоба паступова набывае своеасаблівую лёгкасць у здзяйсненні дрэнных учынкаў і схільнасць да іх паўтарэння. Маральная ацэнка ўчынкаў у дадзеным выпадку залежыць ад таго, ці дрэнная звычка паўстала па віне самога чалавека, ці несвядома, непажадана, па віне знешніх фактараў.

Перашкоды для добрых учынкаў могуць узнікнуць таксама і ў сферы інтэлекту, пазнання. У прыватнасці, гэта няўважлівасць (ненаўмыснае дзеянне) і няведанне (недахоп ведаў для правільнай маральнай ацэнкі дадзенага ўчынку). За ўчынкі, здзейсненыя пры наяўнасці нейкай перашкоды, чалавек нясе адказнасць у той меры, у якой ён сам вінаваты ў яе існаванні. Напрыклад, хтосьці, хто ў дзяцінстве прагульваў катэхезу, не выконвае касцельных наказаў, бо нічога пра іх не ведае.

Сцвярджаючы, што вера без учынкаў – мёртвая, безумоўна, нельга забываць, што вера – гэта перадусім асабістыя адносіны чалавека з Богам. З іншага боку, быць хрысціянінам – гэта не толькі быць з Богам, але і дзейнічаць згодна з Яго воляй, "супрацоўнічаць" з Ім у жыцці Касцёла і свету. І тут таіцца асноўны прынцып хрысціянства: любоў Бога нельга аддзяліць ад любові бліжняга. Толькі выконваючы запаведзі любові, чалавек рэалізуе сваё найважнейшае пакліканне – пакліканне да святасці.

Можна сказаць, што вера як адказ на Божае пакліканне – гэта асноўны, галоўны выбар чалавека, які з'яўляецца падмуркам усяго маральнага жыцця. Гэты асноўны жыццёвы выбар уплывае на ўсе астатнія выбары і рашэнні, якія чалавек здзяйсняе і прымае на працягу жыцця. У дробных штодзённых учынках асобы павінна праяўляцца, даспяваць і ўзрастаць яе вера. Сужэнцам недастаткова проста сказаць адно аднаму "так" падчас шлюбу, каб гарантавана жыць у любові і згодзе да канца сваіх дзён: кожны дзень іх супольнага жыцця яны павінны праяўляць сваю любоў у канкрэтных дзеяннях, прабачаць, саступаць, захоўваць вернасць. Таксама і ў жыцці хрысціяніна асобныя выбары і ўчынкі павінны пацвярджаць і ўзмацняць яго асноўны выбар. Прыгожа пра гэта сказаў айцец Касцёла святы Аўгусцін: "Зрабіўшы выбар аднойчы, я ўвесь час мушу выбіраць наноў".

# Гісторыя і дзейнасць



Мінскі касцёл і кляштар дамініканцаў, у якім з 40-х гг. ХІХ ст. размяшчалася Мінская семінарыя. Малюнак Ю. Літвінчук па рэканструкцыі В. Сташчанюка

**Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай у Расійскай імперыі была праведзена рэарганізацыя адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу каталіцкага касцёла. Стварылі новыя дыяцэзіі.**

У 1798 г. сталіцай асобнай дыяцэзіі стаў Мінск. Першым біскупам Мінскай дыяцэзіі быў прызначаны кс. Якуб Дэдэрка. Разам са стварэннем новай дыяцэзіі ўзнікла патрэба ў асобнай навучальнай установе па падрыхтоўцы новых кадраў духавенства для яе. Абавязак заснавання семінарый належаў да біскупаў. У 1803 г. біскуп Я. Дэдэрка заснаваў у Мінску рыма-каталіцкую духоўную семінарыю. Першапачаткова семінарыя дзейнічала ў будынку францысканскага кляштара, што размяшчаўся на вул. Францысканскай. Першапачаткова семінарыя рыхтавала святароў толькі для ўласных патрэбаў (для Мінскай дыяцэзіі).



Jakób Ignacy Dederko z Bożey i Stolicy Apostolskiey Łaski Pierwszy Minski Biskup Orderow Orła Białego i Sw. Stanisława Kawaler — i Całey Kapituły Katedry i Duchowieństwa Dyecezyi Minskiey Imieniem Prezydent Generalney Kapituły Bożo-Ciałskiey Józef Kaminski Senior Kanonik Katedralny, i Pierwszy Prałat Proboszcz Katedralny Minski Mikołay Bykowski Biskup [illegible] Proboszcz Słucki i Kopylski.

Czyniemy wiadome: że między Zgromadzeniem pod tytułem Congregationis Missionis stanęła umowa o utrzymanie Rządu w Naukach dla Seminarium Minskiego w ten sposob: [illegible]

Праект дамовы паміж мінскім біскупам Я.І. Дэдэрка і Кангрэгацыяй місіі аб працы ў Мінскай семінарыі
*(архіў місіянераў у Кракаве)*

Тэрытарыяльнае паходжанне клерыкаў Мінскай семінарыі было неаднародным. Сюды паступалі маладыя людзі з Мінска, Мінскай, Віленскай, Ковенскай, Віцебскай, Курскай, Гродзенскай, Магілёўскай, Пскоўскай, Курляндскай і Падольскай губерняў.

У 1843 г. Краслаўская, Магілёўская, Беластоцкая семінарыі Магілёўскай архідыяцэзіі аб'яднālі ў адну і далучылі да Мінскай. У выніку Магілёўская архідыяцэзія, якая мела найбольшую тэрыторыю, засталася без уласнай семінарыі. З 1843 г. навучальная ўстанова пачала рыхтаваць святароў як для Мінскай, так і для Магілёўскай дыяцэзій, якая ахоплівала не толькі беларускія землі, але і частку латвійскіх і ўкраінскіх зямель і ўсе ўнутраныя губерні Расійскай імперыі. Гэта паўплывала на значнае павелічэнне колькасці семінарыстаў, што вымусіла дыяцэзіяльныя ўлады шукаць іншы будынак, большы па памерах. Было вырашана размясціць семінарыю ў дамініканскім кляштары, скасаваным у 1832 г. Будынкі размяшчаліся непадалёку – на вул. Дамініканскай. Пасля аб'яднання ў семінарыі навучалася больш за сто семінарыстаў штогод. Выпускнікі Мінскай семінарыі ў далейшым працавалі ў Мінскай дыяцэзіі і Магілёўскай архідыяцэзіі. Апошняя ахоплівала ўсю тэрыторыю Расійскай імперыі на ўсход ад Мінскай губерні.

З 1843 г. Мінская семінарыя стала найбуйнейшай каталіцкай духоўнай навучальнай установай у Расійскай імперыі. Аднак у 1869 г. расійскія ўлады ліквідавалі Мінскую дыяцэзію. Першапачаткова яе тэрыторыя была далучана да Віленскай, а пасля да Магілёўскай дыяцэзіі. Факт ліквідацыі Мінскай дыяцэзіі Рым не прызнаў, у сувязі з чым дыяцэзія дэ-юрэ працягвала існаваць. Дзейнасць семінарыі таксама спынілі, а семінарыстаў перавялі для завяршэння адукацыі ў Вільню.

Першая сусветная вайна ў пэўным сэнсе стала каталізатарам шэрагу працэсаў, у тым ліку і ў канфесійнай сферы. У 1917 г. Папа Рымскі Бэнэдыкт XV афіцыйна адрадзіў Мінскую дыяцэзію. Першапачаткова яе адміністратарам быў прызначаны кс. Эдвард О'Рурк. 2 лістапада 1917 г. для адроджанай дыяцэзіі прызначылі біскупа-ардынарыя. Ім стаў кс. Зыгмунт Лазінскі. Кансэкрацыя кс. З. Лазінскага адбылася ў Варшаўскай архікатэдры 28 ліпеня 1918 г. Інгрэс у Мінскім архікатэдральным касцёле адбыўся 14 жніўня 1918 г.

Яшчэ перад афіцыйным адраджэннем дыяцэзіі ў Мінску актыўна працавалі каталіцкія святары. Сфера іх дзейнасці ахоплівала не толькі душпастырства, а таксама дабрачыннасць і пытанні вяртання як касцельных будынкаў, так і касцельнай маёмасці. Гэта ў далейшым адыграла значную ролю ў адраджэнні дзейнасці духоўнай семінарыі. Сярод іншых неабходна адзначыць кс. Браніслава Усаса. Паводле характарыстыкі, дадзенай яму прафесарам Строевым, гэта быў чалавек: "широко образованный <...>, он отличался огромным тактом и сдержанностью. В служебных отношениях к нему ни в чём нельзя было подкопаться. Крайне скромный в своей личной жизни, он тратил свои средства на помощь нуждающимся русским и притом делал это так, что левая рука не знала, что делает правая".



Якуб Дэдэрка, першы мінскі біскуп і заснавальнік мінскай семінарыі
*(выява з інтэрнэт-рэсурсаў)*

Кс. Б. Усас прыехаў у Мінск у лютым 1917 г. як член Камітэта дапамогі ахвярам вайны. Яму было вядома, што яшчэ ў 1916 г. каталіцкія капеланы царскіх войскаў атрымалі згоду ваенных уладаў на стварэнне часовай капліцы для салдат-католікаў у будынку падамініканскага касцёла. У сувязі з гэтым кс. Усас задумаўся аб магчымасці вяртання ўсяго падамініканскага комплекса. У падамініканскіх будынках з 70-х гг. ХІХ ст. размяшчаліся казармы 30 артылерыйскай брыгады. Будынак кляштара неаднаразова станавіўся прадметам спрэчак паміж гарадскімі і ваеннымі ўладамі. У пачатку ХХ ст. пытанне аб кляштарных будынках уздымалася ў сувязі з жаданнем княгіні М. Радзівіл прыстасаваць іх пад дзіцячую бальніцу, на што (праз знаходжанне кляштара ў самым цэнтры горада) дазволу атрымаць не ўдалося. Рэвалюцыя, а пасля заняцце Мінска немцамі паўплывалі на рашэнне кс. Усаса аб вяртанні будынкаў касцёла.

На спецыяльным сходзе святароў, якія працавалі ў Мінску, праект кс. Б. Усаса атрымаў падтрымку. Аднак былі і праціўнікі. Яны паведамілі аб планах часоваму адміністратару дыяцэзіі кс. Э. О'Рурку. Апошні ў лісце, дастаўленым кс. Усасу, забараніў займацца справай вяртання комплекса пад пагрозай суспенсы. Нягледзячы на гэта, кс. Усас пасля кансультацыі з шанаваным як у асяроддзі духавенства, так і сярод вернікаў кс. М. Маеўскім усё ж вырашыў вярнуць падамініканскія будынкі ва ўласнасць каталіцкага касцёла. Невядома, як дакладна адбываўся сам працэс. У дакументах адзначана, што кс. Усас "ажыццявіў рэвендыкацыю пры дапамозе Пэавякаў, чальцоў Хрысціянскай дэмакратыі, і харцараў – агульнай колькасцю 64 чалавекі, з іх 17 жанчын".

Пасля хуткага рамонту наступіла ўрачыстае асвячэнне будынка, якое адбылося

⇒

**Расклад дня ў Мінскай семінарыі (1829-1830 навучальны год)**

| гадзіны / дні | панядзелак | аўторак | серада | чацвер | пятніца | субота | нядзеля |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 5 – 6 | пабудка і медытацыя | | | | | | |
| 6 – 7 | імша і сняданне | | | | | | |
| 8 – 9 | маральная тэалогія | пастаральная тэалогія | маральная тэалогія | пастаральная тэалогія | маральная тэалогія | маральная тэалогія | рымскі катэхізіс |
| 9– 10 | Біблія | лаціна | Біблія | лаціна | Біблія | касцельнае вымаўленне | |
| 10 – 11 | - | - | - | - | - | - | сума ў катэдры |
| 11– 12. | дагматычная тэалогія | дагматычная тэалогія | дагматычная тэалогія | гісторыя касцёла | гісторыя касцёла | | |
| 12 – 13 | абед | | | | | | |
| 13 – 14 | лацінская мова | | лацінская мова | | лацінская мова | лацінская мова | абед |
| 14 – 15 | рубрум | | сакраманты | | кант | цырымоніі | |
| 15 – 16 | | | | | | | кант |
| 16 – 17 | руская мова | | франц. мова | | руская мова | франц. мова | нешпары |
| 17– 18 | | | | | | | |
| 18 – 19 | канферэнцыя | | | | | | канферэнцыя |
| 19 – 20 | рэкрэацыя | | | | | | |
| 20– 21 | вячэрнія малітвы | | | | | | |

# Мінскай рыма-каталіцкай духоўнай семінарыі



Зыгмунт Лазінскі,
Мінскі біскуп, які адрадзіў
Мінскую семінарыю

17 сакавіка 1918 г. Аб гэтым згадвае "Мінскі дзённік" ад 26 сакавіка 1918 г.: "Пасвячэнне ажыццявіў кс. О' Рурк, казанне прамовіў кс. др. Ю. Гергейт. Касцёл быў перапоўнены вернікамі, усцешанымі вяртаннем несправядліва забранай маскоўскімі ўладамі святыні <…>. Мінчане неаднаразова звярталіся ў Пецярбург з просьбай аб вяртанні касцёла, але іх намаганні заўсёды натыкаліся на нежаданне мясцовых губернатараў і архірэяў. Толькі цяпер старажытныя муры вярнуліся, каб спаўняць сваё першапачатковае прызначэнне". Княгіня М. Радзівіл, даведаўшыся аб пасвячэнні касцёла, прыехала азнаёміцца з працамі па аднаўленні пакляштарных будынкаў. З таго часу княгіня стала шчодрым ахвярадаўцам касцёла.

14 жніўня 1918 г. у мінскім катэдральным касцёле, што знаходзіўся недалёка ад дамініканскага, адбыўся інгрэс біскупа З. Лазінскага. Падобна як і першы мінскі біскуп Я.Дэдэрка, З. Лазінскі адной са сваіх першачарговых задач бачыў адраджэнне дзейнасці духоўнай навучальнай установы, якая б забяспечыла дыяцэзію ўласнымі кадрамі духавенства.

Пачатак любой справы ў ваенных умовах складаны. Ва ўспамінах кс. Б. Усаса занатавана: "Ксёндз-біскуп Зыгмунт Лазінскі <…> лічыць сваім галоўным заданнем стварэнне духоўнай семінарыі у Мінску Літоўскім з мэтай адукацыі будучага духавенства. На жаль, з-за адсутнасці адпаведнага памяшкання не меў біскуп магчымасці рэалізаваць свае задумкі. У той жа час я як рэктар падамініканскага касцёла ў Мінску Літоўскім пасля правядзення ўліку ў гэтым касцёле насуперак выразнай забароне тагачаснага кіраўніка дыяцэзіі графа Э. О'Рурка ў 1818 г. перад заняццем Мінска немцамі меў ва ўласнасці вялікі будынак былога кляштара айцоў-дамініканцаў. Таму я звярнуўся да біскупа Лазінскага з прапановай часовага размяшчэння там семінарыі, прапануючы пад памяшканне для яе ўвесь другі паверх, адзначаючы, што не жадаю аніякай за гэта ўзнагароды ці аплаты. Біскуп з радасцю згадзіўся, і пасля рамонту семінарыя была адкрыта пад кіраўніцтвам кс. рэктара Абрантовіча".

Падобным чынам апісвае сітуацыю і К. Вярыга-Дароўская: "Біскуп абавязкова павінен быў адкрыць семінарыю. Сабраў клерыкаўмінчукоў. Загадаў кс. Б. Усасу заснаваць камісію па падрыхтоўцы памяшканняў для семінарыстаў у падамініканскім кляштары, дзе калісьці, яшчэ перад закрыццём, размяшчалася Вышэйшая духоўная семінарыя. Ужо праз два месяцы – 10 кастрычніка 1918 г. – мінскі біскуп зацвердзіў дзейнасць вышэйшай і ніжэйшай семінарыі ў Мінску. Па звестках кс. Усаса, у будынку дамініканскага кляштара семінарыя функцыянавала да 3 снежня 1919 г., калі была перанесена ў будынак былога кляштара бенедыктынак. Прычына пераносу, аднак, невядомая.

Першым рэктарам семінарыі прызначылі кс. Фабіана Абрантовіча, інспектарам (пракуратарам, эканомам) – кс. Б. Усаса. У некаторых дакументах за 1919 г. кс. Б. Усас выступае як "рэктар семінарыі", аднак ён ім не з'яўляўся. Блытаніна, верагодна, наступала з-за таго, што ён быў рэктарам падамініканскага касцёла. Падчас адсутнасці біскупа З. Лазінскага ў Мінску арганізацыяй дзейнасці семінарыі кіраваў рэктар семінарыі кс. Ф. Абрантовіч. Функцыі рэктара кс. Ф. Абрантовіч выконваў да моманту часовага спынення дзейнасці семінарыі ў 1920 г.

Выкладчыцкі склад быў наступным: рэктар – кс. Фабіян Абрантовіч, інспектар – кс. Браніслаў Усас, ксяндзы – Цікота, Свірскі, Гергейт і Барысовіч (па некаторых звестках у семінарыі працавалі таксама кс. Вітальд Чачот і кс. Юзаф Зельба). У выкладчыцкім асяроддзі існавалі пастаянныя праблемы на нацыянальнай глебе. Так, К. Вярыга-Дарэўская ў сваіх успамінах адзначала: "Паміж ксяндзамі стварыліся партыі беларусаў і палякаў, адныя другім нічога б не саступілі". Кс. Б. Усас у сваіх успамінах адзначае: "Я быў прыняты на пасаду пракуратара семінарыі. На жаль, ксяндзы Абрантовіч і Цікота былі беларусамі з паходжання і лічылі, што семінарыя павінна адзначацца беларускасцю. У якасці канкрэтнага прыкладу хачу прывесці наступны факт. Вышэйзгаданыя святары штодзённа прысутнічалі ў маім доме падчас абедаў і вячэраў, прычым ніколі падчас тых нашых спатканняў не ўжывалі польскую мову, а толькі беларускую. Абсалютна не беручы пад увагу, што 80% парафіян дыяцэзіі было польскай нацыянальнасці, якую ў часы царскай улады вельмі пераследавалі, ксяндзы Абрантовіч і Цікота да клерыкаў звярталіся ў лічылі правільным пабеларуску, што выклікала часам сур'ёзныя канфлікты. Галоўнымі праціўнікамі такіх паводзін ксяндзоў Абрантовіча і Цікоты былі ксяндзы Гергейт і Барысовіч. Апошні звярнуўся да біскупа Лазінскага з просьбай аб звальненні ад абавязкаў прафесара семінарыі, адзначаючы, што паводзіны Абрантовіча і Цікоты з часам прывядуць да сумных наступстваў для дыяцэзіі. Біскуп Лазінскі пасля безвыніковых спробаў перакананць кс. Барысовіча застацца на пасадзе прафесара быў вымушаны пагадзіцца на яго звальненне".

Вострa стаяла праблема людскіх рэсурсаў. Не хапала як выкладчыкаў, так і семінарыстаў. Па звестках Э. Бароўскага, першымі клерыкамі ў семінарыі былі ўраджэнцы Міншчыны, якія перавяліся ў Мінск з Пецярбурга (з Магілёўскай семінарыі і Пецярбургскай духоўнай акадэміі, усяго 17 чалавек). Да іх далучыліся яшчэ пяць семінарыстаў, якія паступілі на першы курс. Аднак кс. Б. Усас у сваіх успамінах згадвае, што колькасць клерыкаў не перавышала дзесяці чалавек. Сярод першых вядомых семінарыстаў можна назваць Казіміра Ламацкага, які нарадзіўся ў Мінску 3 чэрвеня 1900 г. і паходзіў з сям'і арганіста Яна і Юзэфы з Казаноўскіх. У семінарыю паступіў у кастрычніку 1919 г. У 1920 г. разам з іншымі семінарыстамі быў адпраўлены ў Влоцлаўскую семінарыю, а ў 1921 г. – у Келецкую. З 1925 г. працаваў на пасадзе прэфекта ў Пінскай семінарыі.

Эканамічныя ўмовы пачатку дзейнасці семінарыі таксама былі вельмі складанымі. К. Вярыга-Дароўская адзначае, што "нечалавечых высілкаў каштавала здабыццё ва ўмовах нямецкай акупацыі рэчаў, неабходных для функцыянавання семінарыі – пачынаючы ад катлоў у пялявую кухню, <…> сталоў, шафаў і заканчваючы правіянтам, здабыць якія пасля ваенных рэквізіцый было нерэальна цяжка. Праблемай было нават знайсці малую колькасць пшанічнай мукі для выпечкі камунікантаў".

Пасля адступлення немцаў з Мінска горад занялі атрады Чырвонай арміі. Біскуп З. Лазінскі быў вымушаны пакінуць сваё жыллё і пасяліцца ў семінарыі. Неабходна было рабіць запасы правіянту для семінарыі на зіму. Ксёндз Зельба у вёсках Воўчкавічы і Аннопаль змог закупіць 600 пудоў бульбы і каля 300 пудоў капусты, буракоў, морквы і іншых прадуктаў. Аднак выкладчыкі не атрымлівалі зарплаты, у сувязі з чым не маглі сабе набыць на зіму цёплай вопраткі. Разавыя выплаты заработнай платы выкладчыкам здзяйсняліся дзякуючы намаганням біскупа Лазінскага.

Уласнай кухаркі ў семінарыі не было. Аднак ваенная сітуацыя ўзмацніла пачуццё неабходнасці ўзаемадапамогі. У семінарыі сабраліся "жанчыны з таварыства дабрачыннасці, знайшлі шынкоўкі, якія мелі ўсяго па два-тры нажы, і досыць доўга парадкавалі капусту і іншую садавіну і агародніну. Усё атрымалася ідэальна, і дзякаваць Богу было гэтага так шмат, што ўсю зіму падчас найвялікшага голаду вядзеркамі можна было нават прадаваць яе на рынку, і з гэтага ўтрымлівалася ўся семінарыя". Пасля адступлення Чырвонай арміі з Мінска і заняцця горада польскімі войскамі для семінарыі ўдалося раздабыць неабходную мэблю.

Неспрыяльная палітычная сітуацыя пасля чарговага заняцця горада Чырвонай арміяй вымусіла біскупа З. Лазінскага выслаць семінарыстаў з Мінска ў Польшчу, дзе яны вучыліся спачатку ў Влоцлаўку (1920/21 навучальны год) а затым у Кельцах (1921/22 навучальны год). У 1925 г. семінарыя распачала сваю дзейнасць у Пінску, дзе дзейнічала да 1939 г.

*Паводле манаграфіі
і навуковых публікацый
Раісы Зянюк*




Абвестка пра рэкалекцыі ў падамініканскім касцёле, дзе размяшчалася Мінская семінарыя *(Бібліятэка КУЛ)*

**Расклад заняткаў у Мінскай семінарыі (1868 г.)**

| гадзіны | панядзелак | аўторак | серада | чацвер | пятніца | субота |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 8 – 9 | маральная тэалогія | кананічнае права | маральная тэалогія | маральныя тэалогія | маральная тэалогія | кананічнае права |
| 9 – 10 | дагматычная тэалогія | дагматычная тэалогія | дагматычная тэалогія | дагматычная тэалогія | дагматычная тэалогія | дагматычная тэалогія |
| 10 – 11 | Св. Пісанне | руская славеснасць | Св. Пісанне | - | Св. Пісанне | айчынная гісторыя |
| 11 – 12 | руская славеснасць | айчынная гісторыя | айчынная гісторыя | айчынная гісторыя | руская славеснасць | Св. Пісанне |
| 14 – 15 | гісторыя касцёла | | | Св. Пісанне | | гісторыя касцёла |
| 15 – 16 | - | | | - | | - |
| 16 – 17 | касцельныя абрады | | | касцельныя абрады | | касцельныя абрады |

## Віншуем, дзякуем, жадаем!



*24 чэрвеня ў **ксяндза Івана Кароткіна** былі імяніны.*

*Паважаны ксёндз Іван! Няхай Пан Бог дапамагае Вам у плённай працы па ўпарадкаванні нашай святыні, а Езус Хрыстус адорвае ласкай і любоўю! Маці Божая няхай ахінае Вас сваёй мацярынскай апекай, а Ваш святы заступнік Ян спадарожнічае на шляху да святасці і дапамагае пераадольваць цяжкасці! Жадаем моцнага здароўя, душэўнага спакою, радасных дзён і толькі добразычлівых людзей побач!*

*Мы шчаслівыя і ўдзячныя Богу, што сустрэлі ў сваім жыцці такога душпастыра! Вашым бацькам – вялікі дзякуй за сына-святара!*

***Удзячныя парафіяне Дрысвяцкай парафіі Святых Пятра і Паўла, Браслаўскі р-н***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Сардэчна вітаем і ад усёй душы віншуем нашага шаноўнага **ксяндза Анджэя Бульчака** з днём нараджэння!*

*Вельмі хутка бяжыць час... І вось прайшло ўжо амаль сем гадоў, як наш былы ксёндз-пробашч Анджэй Бульчак паехаў будаваць новы касцёл у Паставах. Але людская памяць усіх парафіянаў захоўвае тую бязмежную дабрыню, любоў і клопат, з якімі ставіўся кс. Анджэй да кожнага чалавека, старога і малога. Нястомная праца кс. Анджэя па адраджэнні каталіцкай веры ў душах і сэрцах чашнічан абуджала вялікую цікавасць да рэлігіі, да Бога, дапамагала паверыць у Госпада, у Божую ласку і Божую справядлівасць. І ў радасці, і ў горы людзі звярталіся да свайго духоўнага настаўніка, бо ён заўсёды разумеў іх і шчыра падтрымліваў.*

*Надзвычайная дабрыня і чалавечнасць кс. Анджэя назаўжды застануцца ў нашых сэрцах і ўспамінах! Праз нашу газету мы выказваем вялікую ўдзячнасць Вам, паважаны кс. Анджэй, за Вашу працу, такую неабходную і актуальную ў сучасны час, калі дабрыня і добразычлівасць становяцца, бывае, рэдкай з'явай у грамадстве.*

*Няхай у святарскім служэнні Вас заўсёды суправаджаюць святасць, стараннасць, Божая самаадданасць! Жадаем Вам і надалей несці людзям веру, Божую радасць, надзею на светлую будучыню!*

*Няхай дабрыня, шчасце, міласэрнасць і Божая любоў жывуць заўсёды ў Вашым добрым сэрцы!*

*Пан Бог хай абараняе ад зла і смутку! І ў гэты складаны эпідэміялагічны час няхай Усемагутны Бог дасць сілы, моцы на Божую паслугу!*

***З вялікай павагай і сардэчнай удзячнасцю, парафіяне касцёла Перамянення Панскага ў г. Чашнікі***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Вернікі з Лужкоў сардэчна віншуюць свайго былога **пробашча Міхаіла Татарэнку** з днём нараджэння, які ён адзначыў 1 ліпеня. Жадаем толькі адданых і ўдзячных вернікаў, далейшай плённай працы на ніве Хрыста! Няхай міласэрнасць, ласка і любоў Пана Езуса заўсёды будуць адчутыя Вамі, апека Панны Марыі хай дапамагае здзейсніцца ўсім Вашым марам і пажаданням! Няхай лагодная усмешкай свеціцца Ваш твар, а здароўе з кожным годам набірае сваю моц і сілу!*

*Мы памятаем пра Вас у сваіх малітвах і дзякуем за Вашу працу ў нашым касцёле!*

*Усіх дароў Вам Святога Духа!*

***З павагай, удзячныя вернікі касцёла Святога Арханёла Міхала ў Лужках***

## Хвала Хрысту!



*Дасылаем шчырыя віншаванні паважанаму **ксяндзу-пробашчу Яўгену Міхайлаву** з нагоды дзвюх прыгожых, значных датаў: дня нараджэння і чарговай гадавіны святарскага пасвячэння.*

*Ад сэрца жадаем Вам, шаноўны ксёндз Яўген, поспехаў на святарскім шляху, багатага плёну на Божай ніве! Дзякуем за аднаўленне, за рэстаўрацыю нашага касцёла!*

*Хай Божая Міласэрнасць сыдзе на Вас і адорыць здароўем, дасць моцы і сілы на новую творчую і духоўную працу!*

***З малітвай за Вас, вернікі парафіі Святога Юды Тадэвуша ў Лучаі***

## Хвала Хрысту!



*Сардэчна віншуем з нагоды Дня нараджэння (7 ліпеня) нашага любімага ўсімі **ксяндза Аляксандра Півавара!***

*Паважаны ксёндз Аляксандр! Прыміце шчырыя віншаванні ад парафіян касцёла Святой Тройцы ў Уле! Жадаем Вам шмат радасці, здароўя, нястомнага запалу ў святарскай паслузе!*

*Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя атуляе Вас Матчынай любоўю і апекай і выпрошвае ў свайго Сына ўсе неабходныя ласкі! Вы нястомна і самааддана будуеце духоўны падмурак нашай парафіяльнай супольнасці, праз абвяшчэнне слова Божага ведзяце нас па дарозе Праўды. Няхай Вашыя мудрасць, дабрыня і клопат пра людзей заўсёды будуць для нас прыкладам жыцця! Няхай любоў і супакой застаюцца назаўжды ў Вашым сэрцы!*

*Мы ўдзячныя Вам за сумленнасць і адданасць Божай справе, за Вашу шчырасць, за добрае сэрца і лагодную ўсмешку!*

***З вялікай павагай і ўдзячнасцю, парафіяне касцёла Святой Тройцы ў Уле***

## Хвала Хрысту!

*Парафіяне касцёла Узвышэння Святога Крыжа ў Ахрэмаўцах шчыра віншуюць свайго **пробашча Юрыя Жаўняровіча** з 14-годдзем святарскага пасвячэння (5 жніўня).*

*Дзякуем Вам, паважаны ксёндз Юрый, за Ваша добрае сэрца, за клопат пра хворых і самотных, за ратаванне і навяртанне нашых душаў. Пану Богу дзякуем, што паслаў нам Вас.*

*Ад усяго сэрца жадаем Вам нязгаснага духоўнага запалу ў душпастырскай паслузе, моцнага здароўя на доўгія гады жыцця, а таксама няспыннай апекі Найсвяцейшай Маці Божай! Няхай усмешка часцей будзе на Вашым твары, а побач будуць толькі добразычлівыя людзі!*

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*5 жніўня чарговую гадавіну святарства адзначае **ксёндз Юрый Жаўняровіч**. Дзякуем Пану Богу за тое, што Ён прывёў Вас у нашу парафію! Дзякуем Вам за ўсё, што робіце для нас! Молімся за Вас і просім Усемагутнага Пана, каб адарыў Вас моцным фізічным здароўем, прытуліў Вас з любоўю да свайго Сэрца, адарыў усімі патрэбнымі ласкамі*

*Вас выбраў Бог- Айцец калісьці*
*І план свой Ён для Вас адкрыў,*
*Паклікаў быць святым і чыстым*
*І рукі Вашы намасціў.*

*І, як святар, да брамаў Неба*
*Вядзеце за сабою ўсіх.*
*Праз рукі Вашыя дар Хлеба*
*Пан даў для вернікаў сваіх.*

*Праз Вас Ён словы прамаўляе,*
*А Вы Хрыста даеце нам.*
*Няхай жа вас благаслаўляе*
*На кожным кроку Бог і Пан.*

*Няхай ва ўсіх складаных справах*
*Ён будзе мудрасцю для Вас.*
*Марыя- Маці хай ласкава*
*Вас атуляе ў кожны час.*

***Вернікі парафіі Маці Божай Анельскай в. Замошша***

# Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае “Каталіцкі Веснік” сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

**Свае ахвяраванні нам даслалі: Ядвіга Жолнер** *(Муцеўшчына)*, **Часлава Паўлючонак** *(Муцеўшчына)*, **Іван Паўлючонак** *(Студзяніца)*, **Сцепаніда Лупач** *(Завараты)*, **Станіслаў Вышадка** *(Завараты)*, **Аніцэта Пілецкая** *(Навалукомль)*, **Леакадзія Кашчыц** *(Ашмяны)*, **Браніслава Юран** *(Браслаў)*, **Лілія Іватовіч** *(Яневічы)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*, **Людміла Лоўкіс** *(Навасёлкі-2)*, **Людміла Булаўка** *(Ашмяны)*, **Галіна Данілава** *(Шуміліна)*, **Часлава Сварцэвіч** *(Таргуны)*, **Соф’я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Казіміра Сіндрэвіч** *(Віцебск)*, **Яніна Бруйко** *(Пашкі)*, **Даната Рудак** *(Захарнічы)*, **Ядвіга Розель** *(Ашмяны)*, **Вільгельм Драгун** *(Варапаева)*, **Галіна Русецкая** *(Нясвіж)*, **Тэрэза Каптур** *(Пагошча)*, **Тэрэза Дулінская** *(Вазоўнікі)*, **Марына Катовіч** *(Зорка)*, **Марыя Канецкая** *(Маладзечна)*, **Сцепаніда Грэцкая** *(Вазоўнікі)*, **Салаўёва Н.Н.** *(Дворнае Сяло)*, **Валянціна Сурвіла** *(Шэметава)*, **Алена Дзедава** *(Навагрудак)*, **Марыя Гасюль** *(Ахрэмаўцы)*, **Станіслава Варэнік** *(Мінск)*, **Вера Дундзер** *(Слабодка)*, **Валянціна Лучына** *(Слабодка)*, **Даната Далецкая** *(Слабодка)*, **Елізавета Барткевіч** *(Слабодка)*, **Стэфанія Глод** *(Слабодка)*, **Марыя Угарэнка** *(Слабодка)*, **Люцыя Арсюкова** *(Слабодка)*, **Тэрэза Ганчаронак** *(Слабодка)*, **Яніна Вільчынская** *(Слабодка)*, **Ядвіга Барткевіч** *(Гаўрылаўцы)*, **Рэгіна Савіцкая** *(Гаўрылаўцы)*, **Катажына Шакель** *(Спрынды)*, **Марыя Юрык** *(Глыбокае)*, **Канстанцін Кузьміч** *(Варапаева)*, **Антон Жменчуроўскі** *(Уліна 2)*, **Аліцыя Трафімовіч** *(Паставы)*, **Эма Сцяпанава** *(Сталіца)*, **Ванда Дзенісенка** *(Жыткавічы)*, **Галіна Галуза** *(Падсвілле)*, **Вольга Мятла** *(Сталіца)*, **Марыя Вярцінская** *(Вярцінскія)*, **Ніна Голенькая** *(Віцебск)*, **Галіна Валькевіч** *(Глыбокае)*, **Даната Казачок** *(Глыбокае)*, **Марыя Вішнеўская** *(Мёры)*, **Тэрэза Лешчык** *(Сарокі)*, **Соф’я Юковіч** *(Сарокі)*, **Таццяна Малецкая** *(Мёры)*, **Ганна Гінько** *(Глыбокае)*, **Эмілія Бугаева** *(Лынтупы)*, **Галіна Шкецік** *(Смулькова)*, **Ванда Усціновіч** *(Януковічы)*, **Марыя Новік** *(Зорка)*, **Марына Катовіч** *(Зорка)*, **Ніна Марунько** *(Новалукомль)*, **Яніна Лубінская** *(Шэметава)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*, **Крымская К.І.** *(Наваполацк)*, **Ядвіга Трайко** *(Карасіна)*, **Эма Роўда** *(Новалукомль)*, **Ганна Швед** *(Людвінова)*, **Зінаіда Жук** *(Падсвілле)*, **Антон Петухоўскі** *(Бальшавік)*, **Галіна Русецкая** *(Нясвіж)*, **Яніна Шэнда** *(Зорка)*, **Ада Шумская** *(Наваполацк)*, **Галіна Драгун** *(Юркаўшчына)*, **Валянціна Хаданёнак** *(Сталіца)*, **Юзэфа Малей** *(Сітцы)*, **Тэрэза Смулько** *(Зорка)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы “Каталіцкаму Весніку” сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар’янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

***Рэдакцыя “Каталіцкага Весніка”***

# Абрана новае кіраўніцтва Кустодыі Беларусі ордэна Меншых Братоў Капуцынаў

**13 ліпеня, у другі дзень працы Капітула Кустодыі Беларусі ордэна Меншых Братоў Капуцынаў, які напярэдадні з бласлаўлення Апостальскага нунцыя ў нашай краіне распачаўся ў Новай Баравой, было абрана новае кіраўніцтва Кустодыі.**

**Брат Андрэй Квяцінскі OFMCap,** *Catholic.by*

На агульным сходзе беларускіх капуцынаў падвялі вынікі жыцця і дзейнасці братэрскай супольнасці за апошнія тры гады, на працягу якіх ужо другі тэрмін яе кусташам заставаўся брат Алег Шэнда OFMCap. Пасля справаздачы ў адпаведнасці са статутам адбыліся выбары новага кіраўніцтва Кустодыі.

Новым кусташам Кустодыі Беларусі ордэна Меншых Братоў Капуцынаў удзельнікі Капітула выбралі брата Андрэя Букштана OFMCap.

Госцем капітула ў гэты асабліва важны для супольнасці дзень стаў Старшыня Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі біскуп Віцебскі Алег Буткевіч.

У прамоўленай падчас святой Імшы гаміліі кіраўнік каталіцкага епіскапату краіны заахвоціў братоў памятаць пра падмурак веры, закладзены папярэднімі пакаленнямі вернікаў у Беларусі.

Біскуп Буткевіч таксама павіншаваў новаабранае кіраўніцтва Кустодыі, пажадаўшы братам-капуцынам, а асабліва новаму кусташу і яго раднікам паслухмянасці натхненням Святога Духа.

Тым часам праца Капітула працягваецца, і браты просяць аб малітве ў інтэнцыі іх супольнасці.






# Воспоминания о ксендзе Петре Улицком

Ксендз Пётр Улицкий жил в Видзах на квартире у госпожи Каменецкой. Перед свадьбой мой сын с невесткой вместе со мной ездили на катехизм к этому священнику. Ксендз был уже очень старенький, но добрый и святой. Сын, Сайковский Леонид Эдмундович, и невестка, Шостак Лилия Викторовна, венчались в июле 1989 г. Вместе с ними венчалась ещё одна пара. И все они живут счастливо. В то время костёл был без ремонта. Просто страшно вспомнить...

Однажды в костёле произошла непонятная история с келихом – его вроде как украли, а подозрение пало на ксендза. На Имше Пётр Улицкий рассказывал, что произошло, и крестом лёг перед алтарём, показывая, что он не виноват. Все плакали.

Я ещё в юности складывала лён в костёле и думала: «Боженька, прости меня и не накажи!» Тогда власть приказывала и не признавала Бога. А сейчас спасибо Богу за наших ксензов – Альфреда и Зенона, за их доброту и терпение, за всё, что они сделали для костёла! Спасибо Богу за добрых людей на моем пути!

*Елена Сайковская,*
*81 год (д. Эйтмяны)*

# Летнік і Першая Камунія



**З 12 па 17 ліпеня пры парафіі Святога Казіміра ў Лепелі адбыўся летнік, арганізаваны Карытас Віцебскай дыяцэзіі.**

Тыдзень быў вельмі спякотны, інтэнсіўны і насычаны падзеямі: гульні, спевы, фотасесія, купанне ў Лепельскім возеры, пачастунак поп-корнам і салодкай ватай, трэнінгі для дзяцей і бацькоў, якія праводзілі эксперты арганізацыі “Дзеці – не для гвалту”, сумесная паездка ў аквапарк. Аднак самай важнай часткай летніку была падрыхтоўка да Першай Споведзі і Святой Камуніі: штодзённа дзеці ўдзельнічалі ў святой Імшы і катэхезе, якую праводзіла с. Дар’я Галубкова. У нядзелю, 18 ліпеня, у парафіі адбылася радасная падзея: 20 асоб прыняло Першую Святую Камунію з рук пробашча ксяндза Уладзіміра Заянчкоўскага.

Бацькі выказваюць словы шчырай падзякі ксяндзу Уладзіміру, сястры Дар’і, а таксама ксяндзу Андрэю Аніскевічу, дырэктару Карытас Віцебскай дыяцэзіі, за арганізацыю летніка і падрыхтоўку дзяцей да святых сакрамантаў.

*с. Дар’я Галубкова,* тэкст і фота
*Аляксандр Астроўскі,* фота



# Фонавая лексіка як важны чыннік выхавання моўнага густу

*(Працяг. Пачатак – у папярэднім нумары)*

**У папярэднім нумары мы пачалі гаворку пра надзвычай важны пласт беларускага лексікону – фонавую лексіку. Нагадаем, што гэта словы з яскрава выражаным нацыянальна-культурным кампанентам, якія адлюстроўваюць і шматвяковае духоўнае багацце этнасу, і актуальныя новыя катэгорыі. Да згаданай групы лексічных адзінак можна аднесці, напрыклад, назоўнікі лецішча, летнік, заплечнік, маладзён, заўзятар, гулец, кіроўца, мінак і інш. Цяпер разгледзім яшчэ некаторыя аспекты функцыянавання фонавай лексікі ў сучаснай беларускай мове на аснове матэрыялаў з розных сродкаў масавай інфармацыі.**

**Юрась Бабіч**, *кандыдат філалагічных навук*

Важную ролю ў стварэнні пазнавальнага беларускага кантэксту адыгрываюць так званыя экстралінгвістычныя фактары, або інакш – сукупнасць шырокага кола гістарычных, культурных, грамадскіх і г.д. чыннікаў, якія непасрэдна ўплываюць на фарміраванне ўнікальнай канцэптуальнай мадэлі свету беларусаў.

Лічыцца, што мова праз сваю сістэму значэнняў і асацыяцый падключаецца да канцэптуальнай мадэлі свету пэўнага этнасу, афарбоўваючы яе ў нацыянальна-культурныя колеры. І тады культурна значная інфармацыя вельмі цесна знітоўваецца з глыбінным, падсвядомым зместам фонавай лексікі. Як, напрыклад, у наступных фрагментах з публікацый розных беларускіх медыяў: *Куражную гульню* ***брамніка*** *"зуброў"* ***заўзятары*** *віталі... А вось нядзельная сустрэча прынесла беларускім* ***заўзятарам*** *расчараванне...* ***Заўзеем*** *за нашых!..* (Віцебскі праспект, 3.03.11); *Рэкламная* ***ўлётка*** *з гіпермаркета "Maxima", якая абвяшчае аб* ***зніжках*** *на прадукты харчавання. Паказаны старыя і новыя кошты і адсотак, на які праведзена* ***зніжка*** (Вольнае Глыбокае, 30.06.11); ***Строй*** *створаны з* ***адмысловага*** *матэрыялу, здольнага змяняць колер у залежнасці ад настрою чалавека* (Звязда, 14.11.13); *У той дзень, калі ў метро шукалі* ***выбухоўку****, у Смалявічах адбыўся* ***ператрус*** *на* ***лецішчы...*** (Наша ніва, 12.03.14); *Таксама гледачоў чакаюць новыя рубрыкі і госці – беларускія* ***знаныя спартоўцы*** *і* ***лекары*** (Наша ніва, 12.03.14).

Кожны носьбіт беларускай мовы можа па-свойму ставіцца да выкарыстання слоў *брамнік, заўзець, выбухоўка, улётка, ператрус* і г.д. Кожны можа мець уласнае ўяўленне пра мэтазгоднасць іх ужывання ў штодзённай камунікацыі, тым больш у публіцыстычным тэксце. Але гэта не галоўнае. Урэшце мова з цягам часу сама пазбавіцца ад таго, што не прыжылося, і, наадварот, замацуе тое, што будзе выкарыстоўвацца рэгулярна і ў розных сітуацыях маўлення. У нашым выпадку вельмі важна, што адметныя, інакш кажучы, фонавыя словы ўжываюцца рознымі айчыннымі СМІ. Гэта дазваляе гаварыць пра пэўную тэндэнцыю, нават заканамернасць у арыентацыі на нацыянальна афарбаваныя лексічныя рэсурсы, а не пра выпадковыя, адзінкавыя факты, зафіксаваныя толькі ў асобных публікацыях. Тут назіраецца выразнае адлюстраванне ў значэнні канкрэтнага слова-неалагізма пэўнага комплексу прыметаў прадмета або з'явы навакольнай рэчаіснасці, што ў іншых выпадках можа характарызавацца цэлым спалучэннем ці нават сказам. Гэта значыць, праяўляецца нацыянальная спецыфіка ўспрымання і трактоўкі з'яў і паняццяў.

Новае ці вернутае ва ўжыванне пасля пэўнага перыяду адсутнасці слова можа замяняць сабой іншае, калі абазначаны ім адпаведны фрагмент рэчаіснасці, нейкая сітуацыя становяцца больш частотнымі ў жыцці супольнасці, набываюць большую сацыяльную значнасць і ў нейкай ступені пераасэнсоўваюцца носьбітамі мовы. Таму часам узнікае пэўнае непаразуменне ў працэсе міжкультурнай камунікацыі паміж прадстаўнікамі розных лінгвакультурных супольнасцяў. Гэта, аднак, абумоўліваецца не няведаннем іншай, у нашым выпадку блізкароднаснай мовы, а, хутчэй, неразуменнем тых ці іншых з'яў нацыянальнай культуры, павярхоўная іх трактоўка ці проста нежаданне ўсведамляць адрозны характар іншай культурнай плоскасці.

Яшчэ адзін надзвычай важны фактар стварэння адметнага беларускага кантэксту, этнамоўнага лексічнага фону – выкарыстанне нацыянальна маркіраваных лексем у загалоўках. Як вядома, загаловак у публіцыстычным тэксце (і не толькі ў публіцыстычным) павінен вырашаць найважнейшую камунікацыйна-прагматычную задачу: прыцягнуць увагу чытача да напісанага, зацікавіць яго, урэшце прымусіць пазнаёміцца з тэкстам. Таму, выбіраючы найбольш эфектыўную назву публікацыі, аўтары апошнім часам пачалі праяўляць сапраўдную крэатыўнасць і нестандартнасць мыслення, у структуры загалоўкаў становіцца ўсё менш штампаў і канцылярызмаў. І наадварот, павялічваецца доля і ўзрастае роля ў тым ліку лексем з нацыянальна-культурным кампанентам – фонавых адзінак. Вось колькі прыкладаў такіх загалоўкаў і загаловачных комплексаў з розных айчынных выданняў: *Без* ***дахоўкі*** (Народная воля, 1-3.03.11); ***Зніжкам*** *кожны рады. Асабліва на* ***Каляды*** (Звязда, 30.11.11); ***Гуртам*** *лягчэй і* ***зніжку*** *выбіваць* (Наша ніва, 30.11.11); *Ветлівасць* ***памежніка****, усмешка* ***мытніка*** (Звязда, 18.04.14); *Дзёрзкі налёт на краму: з* ***выбухоўкай*** *і ў* ***бронекамізэльцы*** (Наша ніва, 5.11.14); *Не галалёдзіца –* ***коўзанка****!* (Звязда, 4.02.15); *У Шчучыне адкрыта* ***кнігарня-кавярня*** (Наша слова, 9.09.15); ***Кіроўцы****, будзьце пільнымі!* (Звязда", 12.01.16); *Спадарожнік,* ***суперкамізэлька*** *і штучная скура* (Звязда, 10.01.17). Яшчэ раз акцэнтуем увагу, што загалоўкі зафіксаваны намі ў розных газетах, гэта значыць, не выпадае гаварыць пра нейкі выпадковы характар вылучаных лексічных адзінак, пра асаблівую прыхільнасць толькі некаторых аўтараў-журналістаў да адметных беларускіх слоў. Акрамя таго, такія загалоўкі ці загаловачныя комплексы валодаюць несумненнай мастацкай вартасцю, выконваючы па сутнасці амбівалентную функцыю, бо з'яўляюцца ў нейкай ступені рэкламнымі слоганамі: ***Зніжкам*** *кожны рады. Асабліва на* ***Каляды****; Ветлівасць* ***памежніка****, усмешка* ***мытніка****;* ***Кіроўцы****, будзьце пільнымі!; Спадарожнік,* ***суперкамізэлька*** *і штучная скура.*

Такім чынам, можна сцвярджаць, што апошнім часам у мове сродкаў масавай інфармацыі ўсё часцей сталі ўжывацца этнамаркіраваныя словы, лексемы з выразнай нацыянальна-культурнай семантыкай – фонавая лексіка. Падобныя лексічныя адзінкі, асабліва калі ў межах мікракантэксту іх дзве ці нават больш, на падсвядомым узроўні ўспрымаюцца адрасатам як элемент адмысловых фонавых ведаў і асаблівым чынам уздзейнічаюць на яго кагнітыўны апарат. Словы з адметнымі культурна-спецыфічнымі значэннямі адлюстроўваюць не толькі лад жыцця, уласцівы пэўнай моўнай супольнасці, але і лад мыслення.

У аснове семантычных сістэм розных моў, у тым ліку і блізкароднасных (у нашым выпадку – беларускай і рускай, якія існуюць у грамадстве паралельна), знаходзяцца паняццевыя крытэрыі, сфарміраваныя ў свядомасці прадстаўнікоў адпаведнай лінгвакультурнай традыцыі. Вывучэнне і разуменне гэтых лінгвістычных асаблівасцяў бачыцца надзвычай важнай задачай, вырашэнне якой істотна паспрыяе ў фарміраванні моўнай свядомасці і ў павышэнні агульнай культуры грамадства.

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

*Газета*
*"Каталіцкі Веснік"*
*вул. Савецкая, 1*
*211793*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 20 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

***Місевіч***
***Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793***
***г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

**Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?**

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

***Рэдакцыя***
*"Каталіцкага Вesніка"*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |



# ПАЗНАВАЙКА

Пазнаём Хрыста і Яго Касцёл!

У гэтым нумары разам з Пазнавайкай працягваем разважаць над жыццём хлопчыка Давіда, які быў простым пастушком, але праз тое, што быў абраны Госпадам, стаў Царом Ізраэля. Які ён, цар Давід? Давай, даведаемся разам.

## 1.

Цар Саўл зайздросціў Давіду, што Гасподзь быў з ім. Таму меў намер забіць Давіда. Хто дапамог Давіду ўратавацца?

Калі выканаеш гэтае заданне і размесіш літары згодна нумарам лічбы, даведаешся імя асобы, якая дапамагла Давіду ўратавацца.

| 1. | 2. | 3. | 4. | 5. | 6. | 7. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | |




## 2.

Цар Саўл праследваў Давіда. Аднойчы Давід знайшоў спячага цара ў шатры, але нічога з ім не зрабіў. Ці ведаеш, што Давід забраў у цара Саўла?

Каб добра выканаць заданне, прачытай 1-я Кніга Царстваў, 26 гл.



## 3.

Ізраільцяне і філістымляне змагаліся, цар Саўл і яго сыны загінулі ў бітве. Давід даведаўся, што цар Саўл загінуў. Ён засмуціўся. Калі па парадку злучыш па кропках малюнак, даведаешся, што далей рабіў Давід.



## 4.

Давід стаў царом Ізраэля. Ён быў добрым царом, любіў Госпада і выконваў Яго наказы. Знайдзі 5 адрозненняў.





Мастачка: **Вольга Будкіна;** ідэя: **Вікторыя Колзун**

# У Уле ўшанавалі памяць вязняў беразвецкай турмы

**Яны былі забітыя савецкімі канваірамі восемдзесят гадоў таму, 26 чэрвеня 1941 года, у вёсцы Мікалаева (зараз Шумілінскі раён).**

■ **Зміцер Лупач**, *тэкст;* **Леанід Юрык**, *фота*



У пачатку вайны тагачаснае савецкае кіраўніцтва прыняло рашэнне эвакуяваць вязняў следчай турмы ў Беразвеччы, што каля Глыбокага, на ўсход. Пачалася вайна і дзяржаве была патрэбная працоўная сіла.

Перавезці іх па чыгунцы было ў той час немагчыма, таму вырашылі да Віцебска гнаць пешшу. Усяго з Глыбокага раніцай 24 чэрвеня вывелі больш за дзве тысячы чалавек. Калона расцягнулася прыкладна на паўтара кіламетра. Канваіры адганялі мясцовых жыхароў, якія хацелі перадаць вязням ежу і ваду.

Ішлі другараднымі дарогамі, бо асноўныя былі занятыя войскамі, якія адступалі. Тых, хто не мог ісці і падаў, забівалі кулямі або штыкамі. Усяго па шляху калоны, паводле звестак гісторыкаў, было забіта ад 300 да 500 чалавек. Гэта амаль пяць чалавек на кожны кіламетр шляху!

У абед 26 чэрвеня калона вязняў прайшла Улу і ступіла на мост праз Дзвіну. Некалькі чалавек кінуліся з моста ў раку, але іх нагналі кулі канваіраў. Калі вязні перайшлі мост, нямецкія самалёты разбамбілі недабудаваны савецкі аэрадром каля Улы. І адзін з самалётаў праляцеў вельмі нізка над калонай. Канваіры загадалі людзям легчы, а потым расстралялі іх з кулямётаў і аўтаматаў. Усяго было забіта каля 1800 чалавек. У жывых засталося каля сотні вязняў, большасць з якіх канвой злавіў і этапаваў далей на ўсход.

Ахвяры гэтага злачынства і знайшлі свой спачын на ўскрайку Мікалаева. Доўгі час іх магіла стаяла занядбаная, але ў 90-х гадах мінулага стагоддзя тут зрабілі добраўпарадкаванне і стварылі сціплы мемарыял. З таго часу кожны год у Мікалаеве адбываюцца богаслужэнні ў памяць аб бязвінна загінулых.

Трэба адзначыць, што нават па савецкіх законах гэтыя людзі не былі вінаватыя, бо яны не былі нават асуджаныя. Шмат каго з іх арыштавалі 19 – 23 чэрвеня, некаторых ужо пасля пачатку вайны. У верасні нават савецкая дзяржава асудзіла канваіраў за гэта злачынства, і частка з іх, праўда, далёка не ўсе, панесла пакаранне.

Сёлета таксама планавалася адслужыць тут святую Імшу аб 11-й гадзіне 26 чэрвеня. Але за дзень да гэтага, а 17-й гадзіне, над Улай і Мікалаевам прайшла вялікая бура, якая прынесла шмат шкоды людзям: разбурыла дахі, платы, цяпліцы, паваліла дрэвы. Заваленым дрэвамі аказаўся і мемарыял у Мікалаеве.

— Такой буры тут не памятаюць увогуле за ўсю гісторыю. Бура нарабіла бяды вялікай не толькі ў Уле, але і ў ваколіцах. На гэтай магіле вельмі шмат паваленых дрэў. Яны ляжаць як на мемарыяле, так і ля крыжа. Каля пятнаццаці паваленых дрэў, трэба будзе наводзіць парадкі, гэта не адзін дзень працы, – адзначыў пробашч ксёндз Аляксандр Півавар.

Таму святую Імшу перанеслі ў касцёл у Уле, які, дарэчы, таксама пацярпеў ад стыхіі – у яго пашкоджаны дах. Святую Імшу цэлебраваў біскуп Алег Буткевіч, каторы ў свой час служыў тут пробашчам. Вернікаў было няшмат, бо людзі займаліся ліквідацыяй наступстваў стыхіі.

У сваім слове да вернікаў ардынарый адзначыў, што мы павінны памятаць пра ахвяраў і зрабіць усё магчымае, каб такіх трагедый больш не паўтаралася:

— Гэта важны момант, каб памятаць пра тыя падзеі, згадваць з пункту гледжання хрысціянскай веры, каб разумець прычыны, якія да такіх трагедый прыводзяць. І каб падобных момантаў у гісторыі не здаралася. Павінна быць іх асэнсаванне і пакаянне за ўчыненае.

Прыкра, што і ў Мікалаеве, і ў Уле дзяжурылі міліцыянты. Яны баяліся, што сюды будзе прынесеная недазволеная сімволіка. Восем дзясяткаў гадоў таму тут забілі нявінных людзей, і атрымліваецца, што і цяпер мы не можам годна ўшанаваць іх памяць.

# Парафіі ў Уле патрэбна дапамога

25 чэрвеня бура нарабіла шмат шкоды ў Уле і наваколлі: былі паламаныя дрэвы, разбураныя дахі дамоў, платы, вецер пазносіў цяпліцы. Пацярпеў ад стыхіі і касцёл у Уле: у ім часткова пашкоджаны дах.

Ульская парафія нешматлікая і сваімі сіламі не можа справіцца з наступствамі ўрагану. Таму пробашч ксёндз Аляксандр Півавар звяртаецца да ўсіх неабыякавых людзей з просьбай пра дапамогу.

Няхай Усемагутны Бог узнагародзіць усіх ахвярадаўцаў!

**Рэквізіты для ахвяраванняў**

Религиозная община «Приход Святых Петра и Павла в г.п. Бешенковичи Витебской епархии Римско-католической церкви в Республике Беларусь»

211361 г.п. Бешенковичи, ул. Урицкого, д. 5

УНП 300910756

р/с BY72 AKBB 3015 3507 5002 2220 0000

ЦБУ №203 ф-ла №215 ОАО АСБ «Беларусбанк» в г.п. Бешенковичи

БИК AKBBBY21215

Председатель приходского совета

Александр Казимирович Пивовар

***

Парафія ў Уле вядзе сваю гісторыю ад сярэдзіны XVII стагоддзя. Сучасны храм збудаваны ў 1853 – 1864 гадах, калі тут працавалі ксяндзы Янусевіч і Мотуз. Пра ксяндза Мотуза сучаснікі ўспаміналі: “Незвычайны гэта быў чалавек. Просты, можа, троху сярмяжны, жыў толькі дзеля сваёй ідэі. Касцёл, парафія былі адзінай мэтай жыцця – пакладаў на гэта ўсе працы і малітвы... Плён яго працы застаўся багаты: сёння ўся парафія ўмее чытаць і спявае найлепей у ваколіцах”.

У другой палове XIX – пачатку XX стагоддзя тут перыядычна прамаўляліся казанні на беларускай мове, што ў тыя часы было рэдкасцю.

На пачатку XX стагоддзя Ульская парафія мела амаль пяць тысяч вернікаў. На жаль, зараз у выніку палітыкі ваяўнічага атэізму іх колькасць зменшылася больш як у сто разоў. І хоць вежы касцёла былі разбураныя, сам будынак выстаяў і дачакаўся тых часоў, калі ў яго сценах зноў гучыць Божае слова.

***То не дамо ж яму зноў быць занядбаным!***

## Ахвяруй на “Каталіцкі Веснік”

Дарагія сябры!

Ёсць магчымасць дапамагчы газеце “Каталіцкі Веснік” фінансава. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам ад 1 да 5 рублёў на месяц, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!

Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай свайго мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Даслаць ахвяраванне колькасцю 1, 2, 3, 4 ці 5 рублёў можна, зрабіўшы наступнае:

1. Адпраўце USSD-запыт наступнага фармату:
*363*375295105172*2# — калі Вы хочаце ахвяраваць 2 рублі
*363*375295105172*5# — калі Вы хочаце ахвяраваць 5 рублёў
(апошняя лічба ў кодзе абазначае памер ахвяравання)
2. Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння.
3. Дашліце USSD-запыт наступнага фармату:
*363*[код пацвярджэння]#
4. Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумару 364. З баланса Вашага тэлефона будзе спісана 1, 2, 3, 4 або 5 рублёў, у залежнасці ад таго, якую суму Вы ахвяравалі.

**Увага!** Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 5 рублёў. Каб даслаць большую суму ахвяравання, неабходна паўтарыць аперацыю.

**Увага!** Прапанова актуальная толькі для абанентаў МТС. Калі Вы з’яўляецеся абанентам А1 ці іншага мабільнага аператара ў Беларусі і жадаеце ахвяраваць на “Каталіцкі Веснік”, Вы можаце проста папоўніць баланс тэлефона: +375295105172.

**Вялікі дзякуй за ахвяраванне на падтрымку сайта Catholicnews.by!** За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша! Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!

***Рэдакцыя сайта Catholicnews.by***

**Правільныя адказы на тэст са старонкі 9**

1 – Б; 2 – В; 3 – Б; 4 – Б; 5 – А; 6 – А; 7 – А; 8 – В; 9 – Б; 10 – В

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне “Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь”

**Выдавец:** рэлігійная місія “Дабрачыннае каталіцкае таварыства “Карытас” Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь”

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Мастацкі рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты “Каталіцкі Веснік”, перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП “Віцебская абласная друкарня”, г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 3602

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 3400 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 21.07.2021 г. у 12.25

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)61-88-22
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621

Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь